Новае апісаньне

# Каралеўства

## Польскага і Вялікага

### Княства Літоўскага

у якім

апісаныя не толькі тамашнія мясьціны,

аднак таксама і выбітныя гарады і месцы,

наколькі магчыма было знайсьці даведкі пра іх,

разам з іх вартымі ўзгаданьня

гісторыямі і падзеямі:

Усё

сабрана разам, з асаблівай стараннасьцю,

са старых і новых аўтараў

і атрыманых дакладаў, і

таксама з карысным рэестрам

у друк выдадзена.

Ульм /

У замоўленай выдавецтвам Бальтазара Кюнэна

кнігадрукарні, у 1647 годзе.

**Вельмі Высакароднаму і Велічнаму**

# Пану Ёгану Крыстофу

## фон дэр Грюн[1], дз. губернатару крэпасьці Joux &c. майму вялікадушнаму пану,

Вельмі высакародны і велічны, вялікадушны пан, Каралеўства Польскае на сёняшні дзень вельмі славутае не толькі ў першую чаргу праз свайго вялікамагутнага і міралюбівага караля ULADISLAI IV[2], і таксама высокамудрых каралеўскіх Senatorn, аднак таксама з-за таго, што нягледзячы на належнасьць у ім разнастайных рэлігій, у гэтыя неспакойныя

!старонка 4!

часы, калі амаль па ўсёй Эўропе пануе вайна і ваенныя заклікі, хаос і няшчасьце, яно знаходзіцца ў добрым міры, і сваечасова адмятае ўсе акалічнасьці, што паўстаюць на перашкоду гэтаму, і застаецца таму і надалей у тых напрамках моцным фарпостам нашай улюбёнай Айчызны, Нямецкай нацыі, супраць туркаў. І хаця гэтае каралеўства працягваецца вельмі далёка і шырока і мае вялікія землі пад сабой, аднак дзякуючы добрым ваенным парадкам якасна ахоўваецца ад чужынскіх нападаў; і, калі нават падобнае ўжо здарылася, хутка дае яму адпор; паколькі, як піша Thuanus[3], кароль толькі са шляхты, якая за свой

!старонка 5!

---

[1] Ёган Крыстоф фон дэр Грюн (ням. Johann Christoph von der Grün; 18.03.1588 – 1666) – нямецкі афіцэр, генэрал адьютант герцага Бернарда з Саксоніі-Ваймара, камендант крэпасьцей.

[2] Уладзіслаў Ваза, Уладзіслаў IV (9.06.1595 – 20.05.1648) – кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1632 – 1648), цар маскоўскі (з 1610).

[3] Жак Огюст дэ Ту (фр. Jacques Auguste de Thou; 08.10.1553 – 07.05.1617) – французскі гісторык і дзяржаўны дзеяч.

кошт абавязаная служыць каралеўству, можа сабраць і, калі гэтага патрабуюць абставіны, вывесьці ў поле 150 тысяч ваяроў, ў цяжкім і лёгкім узбраеньні; якія таксама не вылішаюцца забесьпячэньня; як тады, калі Генрых[4] герцаг Anjou у 1573-м годзе быў абраны на Варшаўскім Сойме каралём Польшчы, каля сотні тысяч вершнікаў стаялі ў 4-х мілях вакол горада больш за 40 дзён, і ім не было недахопу ані харчаваньня для коней, ані мяса, рыбы і іншых ядомых рэчаў, таксама нават віна (якое там аднак не расьце), для гэткай колькасьці людзей [vid. Consultat. D. Lansii, in Orat. pro

!старонка 6!

Polonia. p. m. 611]. Такім чынам каралеўства таксама падзеленае і на чатыры палатынаты, ці ваяводствы і кашталяніі, і разьмеркавана якія іх прадстаўнікі падчас вайны выступаюць у ролі капітанаў, ці Capitaneorum, а якія займаюцца іншымі акрамя ваенных справаў у адміністрацыях гарадоў; M. Sebastianus Schröterus[5], in historica totius terrarum Orbis descriptione, Tom 1 lib. 1 cap. 11 p. 809 seq, піша такім чынам[6]: Palatini, seu Weiwodæ, duces copiarum suæ quisque Satrapiæ in expeditionibus bellicis; & in pace, Cõventuum & judiciorum Nobilitatis Præsides & Judæorum Patroni, ac judices, existunt. Castellani, quasi Legati sunt Palatinorum, Ductoresque, ac Præsides Nobilitatis, sub suo quisque Palatino & in sui quisque

!старонка 7!

territorio, ubi nullam alioqui jurisdictionem, dominium, aut Curationem, præter hanc bellicam legationem, habent.

---

[4] Генрых III Валуа, Генрык Валезы (па фр. Henri III; 19.09.1551 – 2.08.1589) – герцаг анжуйскі, кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1574), кароль Францыі (1575 – 1589), апошні прадстаўнік дынастыі Валуа (Ангулемская галіна) на стальцы Францыі. Трэці сын Генрыха II Валуа і Кацярыны Медычы.

[5] Себасьцян Шротэр (ням. Sebastian Schröter; ? – 13.09.1650) – нямецкі лінгвіст, прафесар і аўтар некалькіх навуковых выданьняў на латыні.

[6] Палатыны, альбо ваяводы, зьяўляюцца палкаводцамі, кожны ад сваёй правінцыі, пад час ваенных паходаў; а ў мірны час узначальваюць канвенцыі і шляхетныя суды, зьяўляюцца патронамі судовай палаты і такама судзьдзямі. Кашталяны, у якасьці ваяводскіх легатаў, кіраўнікі і прадстаўнікі шляхты пад сваім уласным ваяводай на сваёй уласнай тэрыторыі; пры адсутнасьці іншай улады – адміністратары і наглядчыкі; акрамя таго маюць ваенную місію. Капітаны гэта прэфекты населенных пунктаў і гарадоў, і таксама дзяржаўныя скарбнікі, ахоўнікі міра і народнага дабрабыту ў сваіх прэфектурах, абаронцы супраць крадзежу, рабаўніцтва і інш. Злачынстваў, і таксама судовыя прыставы. Адпаведна сваёй юрысдыкцыт маюць пэўную ступень улады. Іх намесьнікі носяць званьне віцэ-капітанаў, вядомыя таксама як бург-графы і абмежаваныя судзьдзі, якія разьбіралі 6 з 7 дакладных крымінальных альбо грамадзянскіх выпадкаў, аднак не мелі права голасу супраць шляхты.

Capitanei verò, præfecti sunt arcium, oppidorum, ac redituum Regiorum & custodes pacis & tranquillitatis publicæ, in sua quisque Præfectura, Latrociniorum, Furtorum, aliorumq; scelerum vindices & rerum Judicatorum Executores. Ideoque jurisdictionem, vel coërcitionem amplissimam habent. Horum vices gerunt Vice-Capitanei, Burggravii vulgò dicti & judices Castrenses, qui sextâ quáque septimanâ, de certis causis criminalibus & civilibus, etiam adversus Nobiles, qui prædia nulla habent, jus dicunt.

Паколькі я пра іншыя хрысьціянскія каралеўствы і краіны

!старонка 8!

ўжо напісаў разнастайныя падарожныя кнігі, то я вырашыў, з пазыкай Боскай ласкі, пра астатнія складзьці не ім падобныя, але замест іх кароткія апісаньні, асабліва іх найвыбітных мясьцін, зь якіх ужо на пачатку 46-га году была зроблена апісаньне Каралеўства Венгрыі; за якім цяпер ідзе суседняе зь ім Каралеўства Польскае.

Тое, аднак, што я перадаю гэтае апісаньне Вашай Моцы, адбываецца не толькі з той прычыны, што яны зьяўляюцца вялікім аматарам гісторыі наогул і таксама маіх нешматлікіх надрукаваных кніг, аднак таксама з належный удзячнасьці за

!старонка 9!

аказаныя мне на працягу доўгага часу, калі я меў гонар падарожнічаць з Вашай Моцу і мець агульны прыём у разнастайных мясьцінах, як Цюбінген, Страсбург і Ульм, і таксама потым, ласку і добрыя ўчынкі. І паколькі Ваша моц вялікадушна пажадала запрасіць мяне да сябе ў крэпасьць Joux (пра якую пісаў у Апісаньні гарадоў вартага высокага ўхваленьня Бургундскага краю, і якую таксама Ludovicus Gollusius у сваіх Memories Historiques de la Rep. Sequanoise &c., l. 2 c. 2 f. 79, коратка апісвае[7]: ce Chateau est sur la pointe d'un roc (semblant de loing une pyramide) coupè à l'entour, fors à une advenue bien tranchée, & r'emparée, & cela faict un pas en son fond fort asseuré; mojennant

!старонка 10!

bien petites forces, que lon loge dedans la forteresse); а я аднак, праз стан майго здароўя і таксама немалы ўзрост, ужо не здольны да падарожжаў, акрамя толькі надзвычайнай патрэбы;

[7] Гэты замак знаходзіцца на вяршыне скалы (якая здалёк падобная на піраміду), ДАЛЕЙ ПАТРЭБНЫ ПЕРАКЛАД З ФРАНЦУСКАЙ.

таму такім чынам я перасылаю Вашай Моцы гэтую кніжыцу з належнай высокастараннай просьбай, каб Ваша Моц мелі ласку вялікадушна прыняць і прытуліць яе замест мяне; і каб у астатнем аднак заставаліся надалей маім вялікадушным панам; якому я у лепшай ступені зычу гэтым Боскага заступніцтва дзеля, ва ўсім блаславёнага, дабрабыту. Выдадзена ў Сьв. Імпэрскім горадзе Ульме, 6-га сакавіка, 1647-га года.

Вашай Моцы

найстаранна паслужлівы

Марцінус Цайлер.

# Новае апісаньне

## Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага.

**У Каралеўстве Польскім раней жылі розныя** нямецкія народы, як Burii, Lygii, Arii, Manimi, Elysii, Naharvali, Peucini і іншыя, якія потым часткова самі перасяліліся ў іншыя землі, а часткова былі паступова выгнаныя адтуль Вендамі, ці Venedis. Аднак пра тое, калі гэтыя Венды, якія потым у Нямеччыне былі названыя Sorabi, Obotriti, Lutitii ці Luzitii, Rani, Vinuli, Vilzi, Vetalabi, Retarii, Licicavici, Heveldi, Vuloini, прыйшлі ў Польшчу і суседнія землі, няма нічога дакладнага і вядомага. Martinus Cromerus[8] і Саламон

!старонка 12!

Нойгебаўэр[9], два польскіх гісторыяграфа, лічуць, што палякі і багемцы каля 430-га года Хрыстова ці трошкі пазьней, у часы гунскага караля Аццілы, прыйшлі ў гэтыя землі з Русі і Сарматыі: што яны тады маглі зрабіць лягчэй, бо калі яны былі спачатку ў Славоніі і Далматыі, што знаходзіцца далёка ад іх, і мелі заступніцтва Рыма, то мусілі адтуль спачатку прыйсьці сюды, як піша частка аўтараў. Назва Польшча паходзіць альбо з роўнасьці гэтай зямлі і паляваньня, якім жахары асабліва любяць займацца, альбо ад польскіх князёў Lecho[10] ці Lacho,брата багемскага князя Чэха[11], бо адпаведна Polachi павінна азначаць як раз posteritas Lachi: як яшчэ і сёньня русіны і

---

[8] Марцін Кромер (1512 – 23.03.1589) – біскуп вармінскі. Аўтар гістарычнай працы “Аб паходжанні і дзеях палякаў” (1555).

[9] Саламон Нойгебаўэр (ням. Salomon Neugebauer; пам. 1615) – польскі гісторык, які пісаў на латыні дасьледваньні па гісторыі Польшчы.

[10] Лех – легендарны продак палякаў, заснавацель польскай дзяржаўнасьці, горада Гнезна і герба “Белы арол”. Старэйшы брат легендарных Чэха і Руса.

[11] Чэх – легендарны продак чэскага народу, заснавацель дынастыі князей Пржэмыславічаў.

маскавіты называюць палякаў Lachos, а венгры Lengel і таксама Lechel, ад узгаданага Леха, як хоча адзначыць Cromerus. Сярод замежных аўтараў гэтую назву цяжка знайсьці раней 800-х гадоў. Гэтае каралеўства, разам з далучанымі да яго

!старонка 13!

землямі, у даўжыню ад Марк Брандэнбурга па простай лініі да Масквы цягнецца на 240, а ў шырыню ад Русі, ці адной яе часткі Pokutiæ, да Пернаў у Ліфляндыі прыкладна на 200 польскіх міль, кожная зь якіх зьмяшчае 4 валахскія, хаця літоўскія, русінскія і падольскія трошкі даўжэйшыя. Аднак у цяперашні час, праз падпісаны мір, Ліфляндыя большай часткай знаходзіцца ў швэдскіх руках, што такім чынам шырыня трошкі паменшылася. Pocuce называецца ўся зямля ў польскай Русі, што ляжыць паміж ракой Нэстар і Сармацкімі гарамі, як паведамляе Cromerus, lib. 30 p. 662. David Frælichius[12], вядомы венгерскі Mathematicus, кажа ў Part. 2 Viatorii, lib. 1 c. 11 p. 37 seq, што Польшча ад Сілезскай мяжы да Масквы, паміж захадам і ўсходам, ахоплівае 120 міль, і не менш за тое ад найдалёкай часткі Ліфляндыі да Венгерскай мяжы. Ён аднак не паведамляе, ці гэта нямецкія, альбо венгерскія мілі (якія надта вялікія). Цяпер гэтае каралеўства мае наступны выгляд

!старонка 14!

адносна межаў: з захаду – узгаданы Марк Брандэнбург, разам з Сілезіяй і Памор’ем; з поўначы – Усходняе мора, якое там называецца Mare Venedicum і Sarmaticum, на іншым беразе якога жывуць швэды; з усходу – Русь, Маскву, Татарскія пустэчы і турэцкі край Bialogrod; а з поўдня – Малдавію, Валахію і Венгрыю. Адсюль бачна, наколькі велізарным зьяўляецца гэтае Каралеўства, якое расьцягваецца ад Сармацкіх гор і Семіграда да княства Тэшэн у Сілезіі, і адтуль праз Сілезію да Марк Брандэнбурга, Памор’я і Ўсходняга мора; з другога боку аднак цягнецца каля Масквы, праз Borysthenem, ці рэку Dniepr, да Чорнага мора, а адтуль праз Падолію, Малдавію і Валахію зноўку вяртаецца да Семіграда і Венгрыі і ўздымаецца да Спіша.

У гэтае каралеўства ўваходзюць аднак наступныя землі:

I. – Вялікая Польшча, якая мае гэтую назву таму, што вышэй узгаданы польскі князь

!старонка 15!

Лех гэтую тэрыторыю пачаў абжываць у першую чаргу і мусіў пабудаваць горад Гнезна. Гэты край мяжуе на поўначы з Прусіяй і Мазовіяй, на ўсходзе з Малай Польшчай, на поўдні з Сілезіяй і Марк Брандэнбургам, на захадзе з Памор’ем і Кашубіяй. Праз яе цэнтр бяжыць рака Варта. Мае пяць ваяводстваў альбо Palatinos, а менавіта Познаньскае, дзе ўнаходзяцца гарады Познань і Межэрыч, на мяжы Сілезіі, Марка і інш.; Калішскае, дзе акрамя самага гэтага горада знаходзяцца таксама гарады Гнезна, Pisdri, Conin, Slupzca і Colo; Сірадыйскае, з гарадамі Siradia, Vielunia,

[12] Давід Фрэйліх (ням. David Frölich; 1595 – 24.04.1648) – венгерскі географ, астраном, матэматык, фізік, хімік, гісторык, філолаг, педагог і падарожнік. біскуп вармінскі. Аўтар першай сістэматычнай геаграфіі ў Венгрыі і энцыклапедычных даведнікаў па краінам Эўропы.

Petricovia, Sadeck, Rosprza і Spicimivia; Ланшыцкае, з гарадамі Lancicia на рацэ Bsura, Orlovia, Conarca, Bresinia, Piateck і г.д.; і Равенскае, дзе акрамя самаго гэтага горада знаходзяцца Sochaczowia, Gostynin, Gabin і г.д. Некаторыя адносяць сюды таксама край Куявію, якая інакш ляжыць паміж Вялікай Польшчай, Памярэльлем і Мазовіей, і яе сталіцай зьяўляецца Уладіслаў, паводле якова нават дагэтуль называюць гэты край; мае два войтаўства, альбо палатыната,

!старонка 16!

а менавіта Bresdensem і Inosladiensem. І да першага адносяцца: Radschow, Cruswiz і Covolaw; а да другога: Inowlocz, Bidgosch і Dobrin, як гэтае месца прыводзіць і называе Abrahamus Goelnizius[13] in Compendio Geographico, lib. 2 c. 7; аднак P. Bertius не зусім з ім пагаджаецца, як будзе сказана ніжэй на сваім месца.

II. – **Малая Польшча**, што ляжыць на ўсходзе, гарыстая, асабліва каля Венгрыі (бо іншыя польскія землі большай часткай зьяўляюцца раўніннымі), і праз яе бяжыць Вісла. Мяжуе з Русьсю, Вялікай Польшчай, Сілезіяй і Венгрыяй, і падзяляецца на чатыры войтаўства ці палатыната: Кракаўскае, дзе ляжаць Кракаў, Безь, Вонінч, Сандэк, Лелаў, Ксіас, Просавіц. І сюды таксама некаторыя адносюць польскую Сілезію, якая ўключае два раёны і краі, Асьвецынскі і Заторынскі, якія інакш называюцца герцагствамі і маюць свае назвы ад сваіх сталіц Ozwiecin, ці Аўшвіц, Аўхшвіц, і Zator. Да якіх часам таксама далучаюць

!старонка 17!

Северынскае герцагства; якое аднак ляжыць не там, але за Borysthenem ці Дняпром, каля Масквы. Другім войтаўствам у Малай Польшчы зьяўляецца Сандамірскае, да якога належыць Сандамір, Checiny, ці Secinium, Korczin, Wislitz, Pilzno, Opoczno, Radomi, Poloniec, Zawishost, Zarnow, Malogost ці Malagost (і Половіц, які ляжыць паміж узгоркаў) і інш. А да трэцяга, ці Люблінскага, палатынату адносяцца Люблін, Казімір, Лукаў, Парчоў, Вжэндаў і інш.

III. – **Літва**, што мяжуе з Масквой, Падляшшам, Мазовіяй, Польшчай, Прусіяй, Ліфляндыяй, Жамайціяй, Падоліяй і Валыньню. Называецца Вялікім Герцагствам, паводле стылю русінаў, сярод якіх гэты тытул у іх краіне зрабіўся папулярным, а пасьля таксама выкарыстоўваўся літвінамі. Гэтая краіна мела раней сваіх уласных герцагаў, з якіх паходзіў Jagello[14], які праз шлюб зрабіўся каралём Польшчы, хрысьціянінас, і пасьля хрышчэньня атрымаў імя Wladislaus, паходжаньне і радавод якога прыводзіць Cromerus fol. 349 seq. і fol. 435. Аднак тады

!старонка 18!

---

[13] Абрам Гёльніц (ням. Abraham Göllnitz; пач. 1600-х – пасьля 1642) – нямецкі аўтар падарожных кніг і географ.

[14] Ягайла, у каталіцкім хрышчэнні Уладзіслаў (па пол. Władysław II Jagiełło; 1352[3] – 01.06.1434) – князь віцебскі, вялікі князь літоўскі (1377 – 1392), кароль польскі (1386 – 1434) і вярхоўны князь літоўскі (1392 – 1434). Сын Альгерда і яго другой жонкі, цверскай княжны Юліяніі.

жылі яшчэ іншыя літоўскія князі, сярод якіх быў Vitoudus[15], якога ўзгаданы Jagello, калі ён яшчэ быў паганцам, пад выглядам размовы запрасіў да сябе, а потым схапіў у палон і прысудзіў на сьмерць; той аднак праз хітрасьць сваёй супружніцы і падмену вопраткі застаўся ў жывых; і Jagello перадаў яму, як свайму блізкаму родзічу, панства Grodno і гарады і раёны Breste, Drohicin, Melnick, Bielsco, Surasso, Cameniez і Volciso, каб ён толькі заставаўся верным яму і быў яго вассалам. Тады ён, Jagello, застаўся вялікім герцагам і ўтрымаў Vilnam, Polozum, Crevam, Vitepscum, Novogrodecum Severinense, Trocchos, Kernoviam, Sloninum, Pinscum, Luncoliam, Mscislaviam, Orsam і інш. Літоўскія мясьціны; а калі ён стаў каралём Польшчы, то далучыў вечным правам да Каралеўства Польскага ўсю Літву, разам з Samagitia і часткай Русі, якая знаходзілася пад яго ўладай. А пасьля таго і часткова ў 1386-м годзе таксама і іншыя літоўскія і русінскія князі і вялікія паны прысягнулі яму, каралю,

!старонка 19!

і яго супружніцы, каралеве Хэдвіг[16], і пакляліся і далей заставацца вернымі гэтаму каралеўству. І хаця ўзгаданы Vitoudus, які быў пляменьнікам караля, не давяраў, аднак дзейнічаў супраць яго разам з Нямецкім Ордэнам у Прусіі, пакуль у 1392-м годзе не быў зноўку заключаны мір паміж імі, і яго, Vitoudus, кароль паставіў вялікім герцагам Літоўскім, аднак у якасьці вассала Кароны Польскай; што вельмі раззлавала каралеўскага брата, Coributhum[17], герцага Novogrodensium Severianorum, які належыў да русінскай рэлігіі, і таксама іншых. Ён, Vitoudus, аддаў сваю дачку ў супружніцы вялікаму князю Маскоўскаму Basilio. Узгаданы Coributhus падчас Гусіцкай вайны быў абраны багемцамі ў якасьці іх герцага; пакуль яго не было, пасьля сьмерці Vitoudi, якому было за 80 год, Літву атакаваў Suitrigello[18], брат караля Jagelonis і Coributhi, аднак брат узгаданага Vitoudi, Sigismundus[19], выступіў насуперак яму і застаўся вялікім герцагам, пакуль у 1439-м годзе ён

!старонка 20!

не быў забіты сваімі людзьмі. Замест яго літвіны паставілі сваім вялікім герцагам Cazimirum, малодшага сына шмат разоў узгаданага караля

---

[15] Вітаўт-Аляксандр (~1350 – 27.10.1430) – князь гарадзенскі (1370 – 1382), князь луцкі (1370 – 1382), вялікі князь літоўскі (1392 – 1430). Абвешчаны кароль гусітаў. Сын Кейстута, пляменнік Альгерда і стрыечны брат Ягайлы. Адзін з найбольш вядомых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага, яшчэ пры жыцці празваны Вялікім

[16] Ядвіга Анжуйская (03.10.1373/18.02.1374 – 17.07.1399) – каралева польская (1384 – 1399). Дачка караля венгерскага і польскага Людовіка Венгерскага і Лізаветы Босніяцкай. На каралеўскі сталец абрана пасля смерці бацькі – у 1384, польскія магнаты абвясцілі яе каралевай. У 1385 яна заключыла г.зв. Крэўскую унію. У 1386 годзе была выдадзена замуж за Ягайлу. Была беатыфікавана Каталіцкім Касцёлам ў 1986, кананізавана ў 1997.

[17] Карыбут (пам. пасля 1404) – князь з дынастыі Гедзімінавічаў. Трэці сын Альгерда ад Юльяны Цвярской.

[18] Свідрыгайла, у каталіцкім хрышчэнні Баляслаў (паміж 1369 і 1376 – 10.02.1452) – вялікі князь літоўскі. Малодшы сын Альгерда ад Юльяны Цвярской.

[19] Жыгімонт (~1365 – 20.03.1440) – вялікі князь літоўскі (1432 – 1440). Малодшы сын Кейстута.

Jagellonis, ці Wladislai, які памёр у 1434-м годзе, той потым, пасьля сьмерці свайго брата караля Wladislai III, ў 1444-м годзе стаў таксама каралём Польшчы пад нумарам трэцім свайго імя, і вёў вайну з сынам узгаданага вялікага герцага Sigismundi, Michaele (які, як і пазначаны Suitrigello, памёр у 1452-м годзе). Літва аднак засталася ў Польшчы, і яе наступным вялікім герцагам стаў сын гэтага Casimiri, Alexander, і паколькі ён потым, пасьля сьмерці свайго брата Johannis Alberti ў 1501-м годзе, трапіў да Каралеўства Полськага, то праз гэта Літва яшчэ больш цесна была прывязаная да Польшчы, такім чынам што кароль Польшчы потым і таксама дагэтуль зьяўляўся адначасова і вялікім герцагам Літвы. Chytræus[20], lib. 15 Saxoniæ, fol. 393 seq., кажа, што Літва падзяляецца на 10 палатынатаў, альбо выбітных правінцый, да якіх адносяцца: Vilensis, альбо горад Вільда; Trocensis, у якім знаходзяцца гарады Grodna, Cauna, Lida і Upita; Minscensis, дзе

!старонка 21!

ляжыць Borisovia і іншыя замкі і гарады на рацэ Beresina; Novogrodensis; Brestiensis; Voliniensis, дзе знаходзіцца біскупскі горад Luca, Ulodomiria і Cremenecia; потым Kyoviensis; Miecislaviensis; Vitebsiensis і Polocensis, гэтыя 10 правінцый, Palatinos і Castellanos, у 1569-м годзе кароль Sigismunus Augustus на любінскім Сойме аб’яднаў з Польшчай у адзіны Corpus, і кожнаму тамашняму літоўскаму высакароднаму пану, біскупам, ваяводам і кашталянам, прызначыў пэўнае месца і пасаду ў радзе каралеўства. Аднак пазначаны Chytræus у сваім апісаньні закранае таксама частку Русі. А Abrahamus Goelnizius у Compendio Geographico, надрукаванай у 1643-м годзе, кажа, што Літва мае толькі чатыры ваяводствы, альбо палатыната, а менавіта: Вільдскае ці Віленскае, яго ўключае тры вялікія мясцовасьці – Osnamiensem з Osmiana, Braslaviensem з Braslaw недалёка ад ракі Duna, і Vilkomiriensem з Wilkomirz на рацэ Swicta; далей Palatinatum Trocensem, у якім

!старонка 22!

маюцца чатыры раёны, якія атрымалі назву ад чатырох гарадоў, Grodno, Kowno (дзе робіцца вельмі цудоўная медавуха), Lida і Upita; Mynscensem, дзе ляжыць Mynsco, і дзе маецца толькі адзін раён, а менавіта Reciciensem, да якога належаць гарады Rzeczki, Rakaw, Lohoisco, Borissou, Keidanon, Swislocz, Bodroiso і Odrazko; і потым Novogrodensem, дзе знаходзіцца Novogrodek і два раёны, што называюцца ад гарадоў Slonim і Wolkowiska. У астатнем гэты край мае таксама асобныя княствы і графствы, сярод якіх найвядомае Ducatus Slucensis, што называецца ад горада Sluczk. Герцагі з Радзівіл, ці Radzivilii, герцагі ў Oliikow, Birze і Nieswies, графы ў Szylowiec і Mir і г.д., разам

[20] Давід Хітрэй (ням. David Kochhafe, па лацінску Chyträus; 26.02.1530 – 25.06.1600) – эвангелісцкі тэолаг, гісторык, пяціразовы рэктар універсітэта ў Растоке.

з графамі Chodkiewicii, графамі ў Sklow і Miß, зьяўляюцца там таксама вельмі магутнымі і маюць вялікую пашану.

IV. – Жамайція, Samagitia, Samogitia ці Жамоцка Земля, ляжыць каля Прусіі, на паўночным усходзе, мяжуе далей з Каверландам, Семігаліяй і Літвой; як

!старонка 23!

паведамляе Генэнбергер[21] у Прускіх краёвых табелях, дзе ён падрабязна апісвае гэты край на fol. 407 seq. Там, як таксама і ў адной частке Літвы, і ў кавалку Мазовіі, на Вісьле і г.д. раней жылі нямецкія Æstii. Хаты там надта нізкія і працяглыя, і людзі жывуць пад адным дахам з быдлам. Па цэнтру знаходзіцца печ, ці ачаг, каля якога сядзіць бацька сямейства. І дзеля працы на зямлі там не карыстаюцца жалезам, але толькі драўлянымі прыладамі. Некаторыя паведамляюць, што ў гэтай зямлі няма ані замкаў, ані гарадоў. Іншыя аднак кажуць, што там амаль няма выбітных гарадоў акрамя Rosenie, на рацэ Dubissa. David Frölichius[22] піша, што ў гэтым краі ёсьць толькі горад Caunia. Cromerus аднак, lib. 18 rer. Polon., паведамляе, што ў 1413-м годзе кароль Wladislaus заснаваў у Medniki біскупства і 12 прыходаў (бо столькі раёнаў маецца ў Samagitia), якія адначасова мусяць зьяўляцца канонікамі пазначанага Medniki. А ў 15-й кнізе раней ён кажа, што два паселішча ў Samagitia, Medniki і Velzani,

!старонка 24!

у 1390-м годзе былі спаленыя ворагамі.

V. – Мазовія, Мазурыя, Masovia, ляжыць паміж Прусіяй, Літвой, Русьсю і Польшчай, і мае два палатыната, Плоцкі на Вісьле і Кімензыйскі, да якога належыць Варшава, у якой звычайна зьбіраецца Сейм, разам з Люмбстай, Пулкоўскім на рацэ Narew і Kamieniecz на рацэ Буг. Cromerus называе акрамя сталіцы Варшавы гарады: Cirscum, Ravam, Livum, Gostinium, Sochassoviam, Viskitki, Cechanoviam, Novigrodum, Noviduorum і Ploscum, якія маюцца ў гэтым краі, дзе амаль на працягу 400 год кіравалі ўласныя герцагі, да 1526-га, калі памерлі герцагі Joannes[23] і Stanislaus[24], браты, і зямля адыйшла да Кароны Польскай.

VI. – Volhinia, якую, як пазначана вышэй, Chytræus адносіць да Літвы. Гэтая правінцыя аднак ляжыць паміж Літвой, Падоліяй і Русьсю, тамашнія жыхары карыстаюцца русінскай мовай, і іх найвыбітным горадам зьяўляецца Volodomiria, пасьля якой

!старонка 25!

---

[21] Каспар Генэнбергер (ням. Kaspar ці Caspar Henne(n)berg(er); 1529 – 29.02.1600) – нямецкі сьвятар, вядомы сваімі працамі па картаграфіі і краязнаўству.

[22] Давід Фройліх (ням. Frölich David; 1595 – 24.04.1648) – венгерскі географ, астраном і матэматык.

[23] Януш III Мазавецкі (поль. Janusz III; 1502 – 9-10.03.1526) – князь варшаўскі, чэрскі і мазавецкі, малодшы сын Конрада III Рудога і Ганны Радзівіл. Апошні прадстаўнік мазавецкай галіны рода Пястаў.

[24] Станіслаў Мазавецкі (17.05.1500 – 08.08.1524) – князь варшаўскі, чэрскі і мазавецкі, старэйшы сын Конрада III Рудога і Ганны Радзівіл.

прыводзяць вельмі стары, славуты горад Kijovia, на Borysthene, які ўзгаданы Chytræus таксама referiруе да Літвы.

VII. – Podolia, дзе нясуць свае хвалі рэкі Dniestr, ці Ptolomæi Tyras, і Boh, ці Bog (якога большасьць называе Hippanim, а некаторыя таксама Axiacum), і чыі землі працягваюцца каля Сяміграда і Малдавіі далёка да Турцыі і Чорнага мора, ці Pontum Euxinum, дзе праз татарскае нашэсьце на 60 нямецкіх міль, ва ўсе бакі, ляжаць бязлюдныя палі. Самы доўгі дзень там доўжыцца 16 гадзін, а найвыбітныя гарады: Kamieniec, Bar (пабудаваны супружніцай караля Sigismundi, Bona, народжанай герцагіняй Міланскай), Chmielnik, Braczlaw, Smotricia, Scala, Cervonigrodum, Winnica, Czudnow і Oczakow, якім аднак валодаюць татары, як паведамляе Goelnizius. Bertius прыводзіць замест некаторых іншых Myedzibosz і Bresaniam.

VIII. – **Чорная, ці Малая Русь**, якая на поўдні мяжуе з Сармацкімі гарамі, якія называюць Carpatos, і наогул

!старонка 26!

Krapak і Szepesi; на ўсходзе з Volhinia, Podolia і Малдавіяй; на поўначы з Літвой; і на захадзе з Польшчай. Узгаданы вышэй Goelnitzius піша, што Roxolania, якую таксама называюць Чорная Русь, альбо Малая Ruthenia, ляжыць на гэтым баку Boristhenis і частова належыць Каралеўству Польскаму, а часткова Вялікаму Герцагству Літоўскаму. Польская Русь суседнічае на ўсходзе і поўначы часткова з Літоўскай Русьсю, і ў ёй асабліва з Volhiniam, часткова з Podoliam, на поўначы з Семіградскам і на захадзе з Малай Польшчай. Яна падзяляецца на пяць абласьцей, а менавіта: Галіцынскую, дзе знаходзіцца горад Галіч на рацэ Днестр; Леопальскую, дзе знаходзіцца Leopolis, ці русінскі Лёвенбург; Пржэмыслскую, дзе знаходзіцца Przemysl; Бельзенскую, дзе знаходзіцца Бельз; і Кельмскую, дзе знаходзіцца Кельм. Літоўская Русь знаходзіцца на поўначы паміж Полацэнскім і Бельзенскім герцагствамі; на ўсходзе паміж Смаленскім і Северскім герцагствамі і

!старонка 27!

чэркаскімі народамі; на поўдні яна мае Podoliam, ад якой яна адасабляецца ракой Буг; і на захадзе мае часткова Малую Польшчу і часткова Мазовію. Уключае палатынат Bressia, разам з горадам Bressia на ўзгаданай рацэ Буг; Volhiniam (якая вышэй была апісаная асобна) разам з гарадамі Lusuc на рацэ Ster, Wlodzimierz на рацэ Луг і Krzemieniec; Кіеўскі палатынат, разам з аднайменным горадам; Мечыслаўскі палатынат, дзе ляжаць Miecislavia, Dambrouna, Copycz, Sklou, Mohilou, Bychou, Reczycza і Strisin; і палатынат Vitebsk, разам з гарадамі Vitebsk на рацэ Duna і Orsha на рацэ Boristhene. У новым Atlante Johan. Jansonii[25], які выйшаў у 1644-м годзе, таксама пазначана: усё, што ляжыць паміж Mari Balthico, Ліфляндыяй, Швэцыяй, вялікім Крыжаным морам, ракой Volga, ці Rha, Чорным морам, Польшчай і Літвой, называецца Roxolania, альбо

[25] Атлас галандскага картаграфа Яна Янсана (Johannes Janssonius; 1588 – 11.07.1664).

Русь, і належыць часткова Масковіі, а менавіта той, якая працягваецца ад таго боку Дняпра да самаго Mare Caspium, часткова,

!старонка 28!

аднак каралю польскаму, як частка, якая ляжыць на гэтым баку Boristhenis, ці Дняпра, і таму называецца Каралеўскай Русьсю, якая ўключае ў сябе Леопальскі, Галіцынскі, Гельзенскі (Бельзенскі), Кельмскі і Прэмысльскі раёны, і мяжуе з Малай Польшчай, Мазовіяй, Літвой і Падоліяй. Martinus Cromerus піша ў lib. 1 de Origine & rebus getis Polonorum, што назва Русь у Sarmatia надта шырока распаўсюджаная. Бо яна ўключае амаль увесь край, які ляжыць паміж Sinu Venedico, Ліфляндыяй, Швэцыяй, Крыжаным морам, Rha альбо Volga, дрыгвамі Mæoti, Понтыйскім морам, Сармацкімі гарамі, Польшчай, Літвой і Жамайціяй. Маецца адна русінская хроніка, якая аднак пачынаючы з 1554-га году не паглыбляецца далей, чым на 700 год, паколькі русіны толькі пасьля прыняцьця хрысьціянскай рэлігіі пачалі карыстацца літарамі, што трошкі раней за іх вынайшлі балгары накшталт грэцкіх, і карыстаюцца імі яшчэ мала. Там, дзе зараз русіны маюць сваё жыхарства, раней жылі

!старонка 29!

Roxolani, ці Roxoni, якія падчас уладараньня рымскага імпэратара Ottonis Sylvii[26] пачалі нападаць на суседні Moesiam; і падобна да праўды, што яны потым, калі моц рымлян была паслабленая готамі, гуннамі, вандаламі, аланамі, лонгабардамі, партэрамі, персамі і сарацынамі, захапілі сабе не толькі пазначаны Moesiam, але таксама Daciam, Pannoniam, Dardaniam, Liburniam, Illyricium, Dalmatiam і Istriam; аднак Thraciam, Macedoniam і Грэцыю толькі напужалі, і нарэшце цалкам сапсавалі грэцкую мову, і пасьля гэтага посьпеху праз зьдзейсненныя учынкі узялі сабе назву Славянскія, ці Slavorum, альбо Slavinorum, што азначае гонар і славу. І частка іх, як пчаліны рой, накіраваліся да заходу сонца (верагодна таму таксама іх нямецкая назва: Венды[27]), і забралі сабе тую частку Нямеччыны, якая расьцягваецца ад Віслы да Зааля, Эльбы і Вэзера, і паміж Карпацкімі гарамі, Торнаў і Нямецкім морам,

!старонка 30!

паколькі гэтыя землі абяднелі на народ і стаялі пустымі праз сталыя войны з готамі, вандаламі, аланамі, бургундамі і лонгабардамі ды праз перасяленні на іншыя месцы, і тыя славяне потым падзяліліся на розныя панствы, і ўзялі сабе новыя назвы у гонар сваіх важакоў ці месцазнаходжаньня зямель і мясьцін, часам таксама паводле назвы старых жыхароў, і нарэшце паводле іх учынкаў, вопраткі, ці з-за нейкай акалічнасьці, ці выніку нейкіх справаў, і захавалі толькі свае старыя роксаланскія, ці роксанскія імя, якія засталіся на іх радзіме; з іх было проста ўтварыць рускія, ці русінкія імя. Аднак калі гэтыя русіны толькі пачалі засяляць Сарматыю, ці адкуль яны туды трапілі, і калі атрымалі гэтую назву, гэтага Cromerus ня ведае каб сказаць. Гэтыя русіны

---

[26] Отто Сільвіюс (лац. Otto Sylvius, пам. у 69 г.) – восьмы імпэратар Рымскай Імпэрыі, скончыў жыцьцё самагубствам.

[27] Венды, па ням. Wenden, што гучыць аднолькава з дзейнікам wenden (паварочваць, накіроўвацца).

мелі сваіх уласных князёў, з якіх паходзіў Volodimirus, які пры жыцьці разьдзяліў гэтае вельмі вялікае княства паміж сваімі 12 сынамі, і даў старэйшаму Visseslao, Ноўгарад,

!старонка 31!

Станіславу Smolensco, Sudislao Пскоў, Усеваладу Vulodimiriam, Posuisdo Валынію, і гэтак далей кожнаму яго частку. Калі бацька памёр, паміж братамі каля 1008 году пачалася ўнутраная вайна: і Stopolscus Suentopelscus захапіў Кіеў, а сваіх двух братоў Glebum і Borisium, якіх русіны потым далучылі да ліку сьвятых, хітрасьцю забіў; таму з ім у вайну ўступіў яго брат Jaroslao, які стаў пераемнікам у Наўгародскім княстве ўзгаданаму вышэй і памерламу Visseslao, і перамог яго і выгнаў з Кіеўскага княства,. Што ён уцёк у Польшчу да караля Boleslao, які захапіў горад Kioviam, а Jaroslaus уцёк да Ноўгарада. Каля 1074-га году ўзгадваецца адзін русінскі князь па імя Izaslaus, якога сынамі былі Stopolscus Полацкі і Ноўгарадскі, Uladomirus Смаленскі і Iaropolcus Вышэградскі. У 1185-м годзе русінскі князь з Галіцыі, Mescislaus, быў забіты сваімі людзьмі праз атруту.

!старонка 32!

Пасьля яго русінскім князем быў Romanus, герцаг Уладзімірскі і Галіцкі, які загінуў у сечы з палякамі ў 1205-м годзе. Потым Colomannus, сын караля Венгрыі Andreæ, захапіў сабе з дазволу Польшчы княства Галіцыі, пакуль русінскія князья не маглі дамовіцца паміж сабой; ён аднам не спадабаўся русінам, паколькі быў чужынцам і не належыў да іх грэцкай рэлігіі, таму яны заклікалі да сябе князя Mescislaum, які меў права спадчыны на Галіцыю, і разам з ім перамаглі Венграў і Палякаў. Як яно, аднак, ішло далей, распавядае Cromerus на fol. 185 seq. І хаця венгры больш нічога не мелі на Русі, аднак іх каралі і потым называліся Reges Galatiæ, ці Haliciæ, і Lodomeriæ (што ў Cromerus зьяўляецца Vuladimiriam, і ўзгадваецца на 186-й старонцы яго 7-й кнігі). У той час сярод русінаў набыў моц Даніэль, сын узгаданага вышэй Romani, і атрымаў ад Opissone, папскага легата ў Польшчы, праз яго паслоў каралеўскі тытул

!старонка 33!

разам з каронай, бо ён паабяцаў, што разам з усім народам перайдзе да рымскай царквы і будзе бараніць хрысьціянскія землі ад татараў. Гэта ён аднак не стрымаў і нават вёў разам з татарамі і літвінамі войны супраць Польшчы. Гэтаму русінскаму каралю Danieli succediравай, аднак ужо не ў якасьці караля, яго сын Leo, які ўладарыў каля 1280-га году. Затым у 1340-м годзе польскі кароль Casimirus II, сын караля Wladislai, захапіў пад сваю ўладу паўднёвую Русь і зрабіў яе польскай правінцыяй. Тады ўжо спынілася мужчынская лінія узгаданага вышэй Даніэля: і Lubartus, сын літоўскага герцага Gedemini, паколькі ён узяў у шлюб дачку Ўладзімірскага герцага, атрымаў частку Русі, што суседнічае з Літвой, бо русінскія князья, якіх было шмат, не мелі згоды паміж сабой і таксама былі беднымі, і ён такім чынам змог лёгка зрабіцца іх гаспадаром. Астатнюю Русь, дзе ляжаць Галіч і Левенбург, як сын русінкі атрымаў Boleslaus, мазоўскі князь,

!старонка 34!

яму аднак русіны далі атруту; таму узгаданы вышэй кароль Cazimirus Вялікі, які законна prætendіраваў на Русь, захапіў гэты край і горад Leopolim, ці Левенбург, разам з Præmisliam, Sanocum, Haliciam, Trebovuliam, Lubossoviam, Tustanum і іншымі крэпасьцямі гэтай мясцовасьці да самай Cremenecia, якую ён разам з раёнамі Wladimirensi, Lucensi, Belsensi, Chelmensi і Brestensi на доўгі час пакінуў сваім швагерам, герцагам Літоўскім, якія таксама мелі замкі ў мясцовасьці Валынь і Падлесьсе. Такім чынас цяпер Русь стала польскай пріавінцыяй, дзе кароль па польскаму ўзору паставіў Palatinos, Castellanos, Præfectos, судзьдзяў і іншых начальнікаў і пажадаў, каб русіны мелі аднолькавы з палякамі закон; туды ў 1349-м годзе таксама далучыліся прыведзеныя вышэй мясьціны, як Уладзімір, Кельм, Брэст і іншыя. І кароль таксама пакіунў русінскіх князёў, якія яму падпарадкаваліся, пры іх уладаньнях;

!старонка 35!

толькі найвыбітныя мясціны былі переданыя ва ўладу палякам. Што, аднак, не спадабалася ані русінам у тых апошніх мясьцінах, ані таксама літвінам; таму палякі зноўку мусілі адступіць адтуль; венгры таксама былі незадаволеныя каралём Casimiro, бо ён забраў пад сваю ўладу частку Русі, якая называецца Podolia. Таму ён зрабіў пагадненьне з каралём Венгрыі Ludovico і каля 1363-га году зноўку захапіў страчаную частку Русі узгаданую вышэй. Калі ён, аднак, памёр у 1370-м годзе, то мазуры і літвіны зноўку адняслі некаторыя мясьціны ў палякаў. Аднак яго нашчадак, узгаданы вышэй кароль Венгрыі і Польшчы Людвіг, з гэтай нагоды ў 1376-м годзе вёў вайну з Русьсю, а пасьля яго сьмерці літоўцы захапілі шмат мясьцін і зноўку далучылі да сябе Volhiniam, якая, аднак, зноўку вярнулася да Кароны Польскай праз шлюб каралеўскай паненкі Ядвігі з вялікім князем літоўскім Iagellone, які адбыўся потым, і паводле наступных дамоваў, як было сказана вышэй у апісаньні Літвы.

!старонка 36!

У дадатак таксама ў Смаленске яшчэ мелі свайго уласнага герцага, Suetoslaum, якога забілі літвіны і палякі, і чыго сына Георга паставілі панам над смаленцамі, а ён потым уцёк у Венгрыю, дзе і памёр, а Смаленск тады перайшоў да Вялікага герцагства Літоўскага. У Кіеве быў у той час таксама яшчэ русінскі герцаг па імя Andreas, тыя дачка Zoncam у 1422-м годзе стала жонкай караля Wladislaus, а сын гэтага караля, кароль Casimirus III, паотым у 1471-м годзе паводле перамоваў з літвінамі зрабіў гэтае Кіеўскае герцагства правінцыяй, хаця тамашні апошні герцаг, Simon Olelcovitius, пакінуў сына і дачку, якіх ён прысьмерці адправіў да караля, бо яны былі яшчэ малыя; і таксама брат таго герцага, Міхаіл, быў яшчэ жывы. Аднак у наступныя часы маскавіты адхапіклі большую частку Белай Русі у літвінаў і таксама ў палякаў, асабліва дзякуючы здрадзе Michaelis Glinscii, русінскага князя (які раней меў вялікую вагу пры двары Alexandri караля польскага),

!старонка 37!

а таксама праз здраду русінаў і гарнізонаў. І толькі маскавіцкі вялікі князь Iohannes, які памёр у 1506-м годзе, адняў у літвінаў звыш 70 замкаў і

крэпасьцей, як піша Cromerus у lib. 30 fol. 668; яго сын Basilius потым таксама захапіў пад сваю ўладу магутную крэпасьць Смаленск, з дапамогай узгаданага вышэй Глінскага, які таксама потым атрымаў ад маскавітаў за гэта сваю ўзнагароду. Пазначаны Cromerus referiруе да Русі таксама горад Canizuga.

IX. – Podlachia, Podlassia, ляжыць паміж Мазовіяй і Літвой і падзяляецца на два краі, а менавіта Bielcensem і Brogicinensem. Найвыбітныя гарады гэтай зямлі, гэта Bielsko, Augustow, Tykoczyn і Knyssin. Bertius[28] дадае да гэтых яшчэ Bransko, Suras, Narew і Wasilkow.

X. – **Прусія**, пра гэтую краіну, як таксама і пра **Ліфляндыю**, пайдзе говорка ў двух асобных частках, па прыведзеным там прычынам. Да гэтых названых правінцый далучаюць таксама Podlesiam,

!старонка 38!

ці Polesiam, Polesio паводле агульнай назвы, якое, аднак, зьяўляецца часткай Літвы і мяжуе таксама з Volyniam. Мае шмат лясоў і вельмі вялікія азёры і багны, што некаторыя мясьціны выглядаюць як мора, ад чаго таксама і паходзіць назва. Зьяўляецца, аднак, надта багатай на мёд і рыбу, настолькі што суседнія з гэтым рэгіёнам краіны карыстаюцца тамашняй на паветры сушанай рыбай. Там ляжаць Пінск, Нобель, Давыдаў і шмат іншых гарадоў. Найвялікая рака – Pripetius. Таксама да гэтага refiriруюць Цыпс, ці Scepusium, мясцовасьць у Венгрыі. Аднак паколькі яна не цалкам належыць Польшчы ды і зьяўляецца для яе толькі разьменнай манетай, то ўзгадваецца ў апісаньні каралеўства Венгрыі.

Што аднак да асаблівасьцей, разьмяшчэньня і ўрадлівасьці гэтых зямель, то пра іх ужо трошкі было прыведзена вышэй. У Польшчы наогул маецца шмат гарадоў, не ўсе зь іх, аднак, аточаныя мурамі і маюць акрамя цэркваў і замкаў толькі драўляныя дамы, у якіх яны карыстаюцца печамі і банямі.

!старонка 39!

Там дагэтуль нават можна знайсьці цэрквы, якія пабудаваныя цалкам з дрэва. Гэтая зямля ўрадлівая на пшаніцу, ячмень і іншае збожжа. У Падоліі, калі аднойчы засяваюць полі, то яны застаюцца ўрадлівымі два гады запар і прыносяць пры гэтым старазовы ураджай. Іншыя кажуць, калі гэтую зямлю засяваць адзін раз на год, то можна мець з гэтага тры ўраджая, і быкі там ідуць так глыбока ў траве, што немагчыма відзець нават іх рогі. Але глеба зьяўляецца настолькі цьвёрдай, што трэба ўпрагаць у адзін плуг шмат быкоў. Гэтае Польскае каралеўства большай часткай раўніннае, акрамя ваколіц каля Венгрыі. Аднак у ім, асабліва ў Літве, маецца шмат балотаў, азёраў, багнаў і вялікіх лясоў, якія сустракаюцца ў пазначанай Літве, таму Польшча ў шматлікіх мясьцінах не надта ўрадлівая. З-за маразоў маецца зусім мала вінаграду, і ён пры гэтым дрэнны. Аднак мае разнастайную добрую садавіну, каштаны, айву, гарбузы, кветкі, душыстыя травы, хмель, цудоўныя выганы,

[28] Петрус Бертыюс (Petrus Bertius; 14.11.1565 – 13.10.1629) – фламанцкі тэолаг, гісторык і географ.

шмат быдла і вялікую колькасьць быкоў, якіх адтуль экспартуюць у іншыя краіны. Яшчэ
!старонка 40!
яно не мае ніякай нястачы дрэва, шахтаў, рэк, азёраў, дзічы, зуброў, аленяў, птушак, рыбы, цёплых і цалебных купальняў, мёду, воску, вару, камедзі, солі (акрамя Ліфляндыі) і таму падобнага, а часам мае нават з лішкам. Таксама тут знаходзяць вялікую колькасьць волава з срэбрам, медзь, ртуць, жалеза і г.д.

Што да жыхароў узгаданых цямець, то ва ўступе распавядался пра немцаў, якія раней жылі тут. Некаторыя хочуць лічыць, што ў Літве жылі Gepidæ і Alani. Адзін кажа, што Litalanus, ці Litwo, сын прускага караля Vedenuti, у 573-м годзе Хрыстовым прыбыў у Літву, якую раней насялялі Alani, і даў ёй, як таксама і Ліфляндыі, назву паводле ўласнага імя, бо ліфляндцаў раней называлі Lotialos, ці Lotwonos. Іншыя паведамляюць, што італьянцы пад началам свайго важака Palæmone сышлі са сваёй Айчызны альбо з-за тыраніі Neronis, альбо былі выгнаныя адтуль за злачынства, альбо ў часы караля гунаў Attilæ,
!старонка 41!
і пасьля доўгага бадзяньня нарэшьце тапілі да гэтай зямлі па вадзе: што таксама потым і літвіны ўвесь час пацьвярджаюць і маюць у сваёй мове шмат лацінскіх і валахскіх словаў: яны таксама пагаджаюцца, што іх шляхта паходзіць ад узгаданага Palæmone, і таксама ад Ursinis, Gastaldis і іншых, якія прыйшлі з ім сюды, аднак астатняя чэрнь вядзе сваё паходжаньне ад готаў. І таму пазначаны князь Palæmon назваў гэтую зямлю l'Italia, з чаго ў рэшце рэшт атрымалася Lituania. Каля 1396-га году ў Літву прыйшлі татары, якія былі пераможаныя ўзгаданым вышэй Vitoudo, вялікім герцагам Літвы, альбо выгнаныя са сваёй зямлі ў ходзе грамадзянскай вайны, альбо запрошаныя ім супраць нямецкіх крыжакоў, Vitoudus даў ім у цэнтры Літвы, над ракой Vaca, землі, на якіх яны жывуць і да сёняшнега дню і зьяўляюцца добрымі, працавітымі гаспадарамі, час ад часу кіруюць людзьмі і ў ваенных справах не зьяўляюцца прафанамі, аднак трымаюцца яшчэ сваіх старых магаметанскіх забабонаў, і
!старонка 42!
вольна жывуць паводле сваіх законаў, у астатнем, аднак, як і іншыя літвіны, зьяўляюцца падпарадкоўванымі каралю Польшчы і вялікаму герцагу Літвы. У астатнем большасьць жыхароў каралеўства Польскага зьяўляюцца славянамі альбо вендамі; хаця там паўсюль маецца шмат немцаў, таксама і ў Літве ў Вільдзе, ці Vilna, асабліва сярод гандляроў і рамесьнікаў, якіх польскія каралі самі зноўку прывабліваюць у сваю краіну. У краіне маюцца нават некаторыя мястэчкі і вёскі, якія населеныя амаль аднымі немцамі, якія таксама карыстаюцца сваёй нямецкай мовай (што мусіць быць аднолькавай з сілезскай і прускай), асабліва ў горных раёных па суседству з Венгрыяй і ў Русі. Польскі гісторык, біскуп Martinus Cromerus кажа ў lib. 12 fol. 311, што праз стараннасьць і працу немцаў, якіх прывёў у краіну кароль Casimirus Вялікі, вёскі і гарады значна павялічыліся. Бо немцы ёсьць больш эканомныя і старанныя ў сваёй хатняй гаспадарцы, чым палякі,

таксама і жывуць яны ў большай чысьціні, што хутка заўважаюць падарожнікі па Польшчы,

!старонка 43!

і могуць ужо самі заўважаць, дзе жывуць палякі, а дзе немцы. Таксама бачна, што ў некаторых гарадах, , пасьля таго як іх засяляюць і пераймаюць у сваё кіраваньне палякі, развальваюцца пабудаваныя немцамі муры. Палякі таксама з задавальненьнем вывучаюць нямецкую мову; і сярод іх маюцца некаторыя шляхетныя роды, якія паходзюць ад немцаў; і ў Кракаве немцы маюць свой уласны Статут; там, як і ў некаторых іншых мясьцінах, жывуць таксама і італьянцы. У астатнем у краіне маюцца яшчэ старыя прусы, як іх называюць, аднак значна больш русаў; а ў землях Русі і Падоліі – шмат армян, якія вядуць там гандаль; і па ўсяму каралеўству жывець неверагодная колькасьць жыдоў, якія па большасьці карыстаюцца нямецкай мовай і маюць вельмі вялікія вольнасьці, якія ім у мінулым падараваў герцаг Boleslaus Калішскі, і якія потым узгаданы вышэй кароль Casimirus, які памёр у 1370-м годзе, памножыў, бо ён меў у якасьці палюбоўніцы жыдоўку па імені Эстэр, з якой ён таксама нарадзіў двух сыноў, Nemiram

!старонка 44!

і Pelcam, і некалькі дачок (якіх яна пажадала выхоўваць у сваёй жыдоўскай рэлігіі), праз яе дапамогу жыды атрымалі тады ад караля Польшчы вялікую ласку. І Iodocus Ludovicus Decius[29] у lib. 3 vetust. Polon. fol. 14 мяркуе, што акрамя іншага, надта вялікае заступніцтва, якое маюць жыды ў Польшчы, зьяўляецца прычынай таго, што гэтае каралеўства так часта атакуюць варварскія народы.

І як адрозьніваюцца самі жыхары Польшчы, так сама і маюць яны разнастайныя традыцыі і звычаі. Прыроджаныя і агульныя літвіны гультаяватыя, няўмелыя дурні, які асабліва любяць сваіх паноў, калі тыя старанна бьюць і сякуць іх. Частка такіх прыгонных людзей, асабліва тыя, што належаць да русінскай рэлігіі, калі нехта зь іх праз сьмерць вызваляецца ад сваёй цяжкай службы , то сябры праважаюць яго ў апошняе падарожжа прыгожа апранутым і ўпрыгожаным манетамі, а сваякі, ці добрыя сябры, кладуць яму ў магілу складзены да сьв. Пятра ліст,

!старонка 45!

каб нябожчык меў лягчэйшы ўваход на Нябёсы. Адна агульная хата служыць у іх і для людзей, і для быдла, і кабета пасьля родаў ляжыць на жорсткай лаве і праз тры ці чатыры дні пасьля нараджэньня зноўку ідзе на працы. Калі заможныя людзі ў Літве ляжаць на лаве пакрытай мядзьвежай скурай, то гэта лічыцца за ганарлівасьць; бо ляжаць мякка і на ложках лічыцца там за сорам. Шлюбы сярод іх скасоўваюцца вельмі лёгка, і кабеты могуць мець сваіх палюбоўнікаў у якасьці падтрымкі шлюба; аднак мужчынам, калі яны спяць з іншымі кабетамі, гэта залічваецца за здраду. Калі яны напіваюцца, то чынюць бойкі і забойствы, і штраф за забітага чужынца складае 16 талераў. Яны маюць манету, якая называецца Rublus і каштуе 100 грошаў. Калі кагосьці асуджаюць на сьмерць, то ў большасьці выпадкаў ён мусіць сам

[29] Юстас Людвіг Дыц (ням. Jost Ludwig Dietz; каля 1485 – 1545) – кракаўскі дыплямат, банкір, сэкратар караля Жыгімонта Старога.

караць і вешаць сябе. Калі ён не хоча рабіць гэта, то яго бье яго пан так доўга, пакуль не зьбівае да сьмерці; як пра гэтыя і іншыя

!старонка 46!

шматлікія літоўскія звычаі можна прачытаць у Alex. Guagninus[30] de reb Polon., Olaus M.[31] lib. 3 cap. 1, Thom. Lansius[32] in consult. de Princip, і таксама Г. Браўна[33] ў апісаньні горада Вільні, Саламона Нойгебаўэра lib. 1 rer. Polon. і Laurentius Мюллера[34] ў яго польскіх, ліфляндцкіх і іншых гісторыях. Жамайты, ці самагіты, хаця і прынялі хрысьціянскую веру ў 1386-м годзе: аднак там яшчэ відаць не цалкам ачысьціліся ад паганства і асабліва ў дачыненьні да трыманьня хатніх зьмей, якіх яны называюць Givoiitos. Цалкам палякі зьяўляюцца ваяўнічымі, разумнымі і ахвочымі да далёкіх падарожжаў, шляхта ветлівая, прагная свабоды, таму ім таксама не патрэбна шмат крэпасьцей, бо яны лічаць, што іх людзей дастатковa хапае дзеля абароны каралеўства. Шляхта і купцы карыстаюцца адначасова св сваёй роднай мовай таксама і іншымі, асабліва, як сказана вышэй, нямецкай разам з французскай, а тыя, што жывуць побач з Венгрыяй, вянгерскай, у астатнем, аднак, паўсюдна карыстаюцца лацінскай мовай, якую яны пры гэтым, паводле accent, жудасна вымаўляюць

!старонка 47!

Мелі раней толькі адзін універсітэт, а менавіта Кракаўскі, пакуль вялікі канцлер Zamojscius у часы караля Stephani не заснаваў у сваім новым горадзе Zamoscio яшчэ адну вышэйшую школу і не прызначыў там Professores па ўсім Facultetэтам, пра што чытай ніжэй у апісаньні гэтага горада. У Познанні маецца таксама адна Academi, пра што трошкі будзе сказана ў апісаньні гэтага горада. Наконт духоўных Cromerus піша ў lib. 25 rer. Polon. fol. 547 наступнае: ab Anno 1463 Pontificia authoritas in Polonia debilitata est, et electioni liberæ vis allata, ita, ut ex eo tempore ea sublata, umbra modo ejus quædam penes sacra Collegia remaneat, non sine grandi non modo Ecclesiasticæ autoritatus, verum etiam Religionis, et Reipublicæ, jacturâ[35]. Што ён там потым, на наступнай старонцы, прыводзіць падрабязьней. І духоўныя саслоўі, па жаданьню, могуць адпраўляцца на вайну. І ў гэтай зямлі маюцца разнастайныя рэлігіі, аднак Рымска каталіцкая, якой належыць кароль, мае

---

[30] Аляксандар Гваньіні (Alexander Gwagninus; 1538 – 1614) – выдавец, гісторык, вайсковец італьянскага паходжаньня. Большую частку жыцьця правёў у Вялікім Княстве Літоўскім, пасьля ў Рэчы Паспалітай.

[31] Олаф Магнус (лац.: Olaus Magnus; 1490 – 1557) – швэцкі царкоўны дзеяч, арцыбіскуп Упсалы, дыпламат, пісьменнік і картограф.

[32] Тумаш Ланс (Thomas Lansius; 16.02.1577 – 22.121657) – доктар права, выкладчык палітыкі, гісторыі і аратарства ў розных навучальных установах Нямеччыны.

[33] Георг Браўн (Georg Braun; 1541 – 1622) – тэолаг і клірык, складальнік (супольна з Ф. Хогенбергам) і выдавец вядомага атласу еўрапейскіх гарадоў.

[34] Лаўрэнцый Мюллер (Laurentius Müller; раней 1558 – 1598) – курлянцкі гісторык, дарадчык караля Стэфана Баторыя.

[35] З 1463 г. аўтарытэт Папы ў Польшчы пачынае слабець ...

перавагу. Шляхта там вельмі шматлікая, што яе можна налічыць недзе каля 200 тысяч. І

!старонка 48!

Некаторыя паведамляюць, што кароль у крытычным выпадку можа вывесьці ў поле 150 тысяч шляхцічаў, у цяжкім і лёгкім узбраеньні, якія абавязаныя за свой кошт служыць каралеўству, калі іх заклікаюць сабрацца ў месячны тэрмін праз тры restes, ці каралеўскія загады. У сваю чаргу шляхта таксама мае вельмі вялікія вольнасьці, і пры гэтым не робіцца розьніцы ані для князёў і графаў, ані для вышыні пасады і багацьця. І калі на вайне за мяжой адзін шляхціч трапіць у палон, альбо атрымае іншую шкоду, то кароль мусіць сам кампенсаваць яму гэта ці вызваляць яго.

116-119

Grodno, Grodna.

Выбітны горад у Вялікім committee княстве Літоўскім каля ракі Niemen, якая раней называлася Cronon, разьмешчаны звычайным для гэтага краю чынам часткова на гары і часткова на раўніне. Там хапае месца на невялікую колькасьць дамоў, таксама мала якія зь іх мураваныя, аднак па большасьці драўляныя і дрэнна пабудаваныя, горад таксама аточаны мурам, і умацаваны яшчэ больверкамі, брамамі і вежамі. Аднак у замку, які знаходзіцца на высокай гары, можа бяспечна жыць польскі кароль. Жыхары ў мінулым, да таго як сталі хрысьціянамі, былі вялікімі паганцамі, цяпер там маецца, як піша Каспар Энс in deliciis Apodem. per Germaniam p. 302, тры мураваныя царквы, адной карыстаюцца палякі, а дзьвума русіны да сваёй грэцкай рэлігіі: ім таксама належаць яшчэ 2 царквы ў прадмесьцях, адна драўляная, круглай формы, а другая пабудаваная з цэглы: астатнія цэрквы тут драўляныя. Званы вісяць не ў царкве і не на царкве, але па большасьці перад уваходам у іх, там стаіць драўляны будынак, над якім уздымаецца вежа, у якой наверсе вісяць званы. Тут маецца ўзгаданы замак, як таксама і каралеўскі дом, ратуша і княская стайня, больш аднак тут мала што можна пабачыць, хаця гэты горад ёсьць другі пасьля Вільні. У 1577-м годзе кароль Stephanus трымаў тут сойм, на які прыйшло маскавіцкае пасольства колькасьцю ў 1200 асобаў, надта вяльможна апранутае і з каштоўнымі падарункамі, якім было дадзенае неабмежаванае месца на поле каля горада, дзе яны самі паставілі свае намёты і хаткі, з якіх ім не дазвалялася выходзіць без польскага суправаджэньня. Туды таксама прыбылі з неверагоднай пыхай туркі, татары і паслы з Валахіі, якіх на розных месцах пад адкрытым небам прымалі польскія паны. У 1586-м годзе пазначаны кароль зноўку спыніўся тут, і сярод яго людзей быў таксама славуты майстар Scotus Parmensis. Які, калі 27-га чэрвеня ў яго жыльлі каля самага замку пачаўся пажар, пры сьветлым дні выбраўся наверх цераз дах і патушыў яго ва ўсім полымі, без вады, ці прыкладаньня сваіх рук, як пазначае гэта ў сваёй падарожнай кнізе адзін высакародны чалавек, які бачыў гэта ўласнымі вачыма.

153

Полацак, Polotia

Гэты выбітны і вялікі літоўскі горад ляжыць на рацэ Дзьвіна, ці Duna, якая мусіць быць Rubon Ptolemæi, там дзе ў яе ўліваецца Polota, і насупраць Ліфляндыі. Мае два замка і свайго ўласнага ваяводу, ці Palatinum. I Chytræus lib. 24. Saxon паведамляе, што ён зьяўляецца герцагствам. Пауль Одэрборн таксама піша пра гэты горад у гісторыі жыцьця вялікага князя Масквы Ioan. Basilidis, lit. Oij: Полацак ляжыць у 50 вялікіх мілях ад Vilna на рукатворным узвышшы. Дзьве глыбокія ракі, Дзьвіна і Палота, шырока цякуць вакол яго. Ён добра абаронены мурамі, бастыёнамі і валамі. Мае вельмі моцны замак. У мінулым ён быў вольным горадам і часам таксама падпарадкоўваўся ўладарам. Аднак увесь час ён знаходзіўся пад апекай каралёў Польшчы, і калі адбывалася вайна, вёў яе разам з каралём і аказваў яму, без усялякіх

запярэчваньняў, дапамогу і падтрымку. Дагэтуль словы Oderbornius. У 1563-м годзе 15-га лютага гэтае места захапілі узгаданыя маскавіты і ўсіх жыдоў адтуль, якія не пажадалі хрысьціцца, кінулі ў Дзьвіну і ўтапілі: як потым ён, калі ён у 1554-м. г. захапіў горад Астрахань, і татараў, што не пажадалі стаць хрысьціянамі, таксама адразу загадаў рассекчы на кавалкі, альбо кінуць у ваду, як пазначаны Одэрборн у сваёй кнізе паведамляе. У 1579-м годзе кароль Польшчы Стэфан зноўку абклаў гэты горад. Маскавіты, якія ў аблогах вельмі ўпатрыя, мужныя і дзёрзкія, і ў гэтым дачыненьні пераўзыходзяць усе народы, таксама і тут у Полацку мужна абараняліся супраць палякаў, аднак павінны былі нарэшце ў жніўні здаць гэтае места апошнім, пасля таго як яно знаходзілася пад іх уладай ужо 16 год. Палякі захапілі таксама тры замка ў полацкіх ваколіцах, а менавіта: Turoly, Socoly і Sussa, сярод якіх Socoly, які ляжыць у пяці мілях ад Полацка ў напрамку да Пскова на рэках Дрыса і Ніса, трымаўся даўжэй за іншыя, пауль ён нарэшце не быў узяты агнём і мячом. У іншым паходзе 1580-га году кароль захапіў два вельмі моцных замка, Веліж і Усьвяць, і потым 26-га жніўня абклаў замак у Velikoluko. Потым жыхары горада падпалілі і спалілі, з жаху і страху перад ворагам, увесь горад разам з 30 цэрквамі. ....... Хто хоча больш ведаць пра горад Полацак (дзе вядзецца вялікі гандааль), той можа пачытаць Caspar. Ens in delic. apodem. per. German. p. 307 seqq., які шырока і падрабязна апісвае яго разам з яго ранейшымі рэгентамі і да яго адноснымі ваколіцамі, як таксама і вышэй узгаданы максавіцкі горад Астроў, pag. 309, што ён верагодна ўзяў з Reinoldi Гайдэнштайна historia belli cum Mosco a rege Stephano gesti, як яе прыводзіць Саламон Геннінг у Ліфляндскай Хроніке.

208

Witepsk, Vitepscum, Vitebsium.

Самая надзейная крэпасьць ва ўсёй Літве супраць нападу маскавітаў, якая знаходзіцца каля Duna, ці Dzwina, паміж Ula і Surass. David Frolichius называе яго: вялікі горад разам з 2мя замкамі, якія зьяўляюцца самымі моцнымі ва ўсёй Літве дзеля стрыманьня маскавіцкіх набегаў. Адтуль да Vilna налічваецца 80 міль. У 1580-м годзе сюды прыбыў кароль польскі, Стэфан, калі ён ішоў на маскавітаў, а потым захапіў замкі Velisam і Usujatam, Vielico-Lucam, Nevelam і Zavalotiam, як мы казалі тут ужо ў іншым месцы, і таксама сярод іншага можым чытаць у Chytræus lib. 24 Saxon. Тут маецца ваявод, ці Palatinum.